# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 86671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 50 (1804) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 16 СНЕЖНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.


З І Агляду беларускага фільма

## ПЕРШАЯ СПРОБА

Усё, здаецца, было падрыхтавана як след. Плакаты (як і прыстала — на польскай мове), інфармуючыя, што ад 16 да 23 лістапада гэтага года мае адбыцца фестываль беларускага фільма, былі расклееныя па ўсім горадзе (і нават у праходах пад блёкамі) загадзя. На плакатах былі пералічаны ўсе фільмы, якія мелі дэманстравацца. Многім дзеячам БГКТ і сімпатыкам яго былі разасланы спецыяльныя запрашэнні на адкрыццё фестывалю. Праўда, некаторыя атрымалі гэтыя запрашэнні толькі 19 лістапада (трэба меркаваць, што па віне пошты), але інтэнцыі былі самыя лепшыя.

З Мінска, з „Беларусьфільма", прыехала аж восем чалавек, якія непасрэдна ўдзельнічаюць у стварэнні беларускага фільма, — Уладзімір Колас, Уладзімір Бокун, Юры Марухін (рэжысёры), Георгі Колас (сцэнарыст), апаратар Леў Слобін і іншыя.



З Варшавы на інаўгурацыю І Агляду беларускага фільма была запрошана Багуміла Бердыхоўская, дырэктар Бюро па нацыянальных справах Міністэрства культуры і мастацтва.

Нават пра ўрачыстае „парты" з гэтай нагоды арганізатары з БГКТ не забыліся, робячы яго ў першы дзень на заходнюю манеру.

Але найбольшым плюсам для арганізатараў, на маю думку, былі ўводныя словы перад фільмамі (найчасцей такую невялічкую лекцыю рабілі госці з Мінска, але таксама і Сакрат Яновіч — перад фільмам „Дзікае паляванне караля Стаха" паводле Ул. Караткевіча, і сакратар ГП БГКТ Віктар Стахвюк), ды асабліва дыскусіі з беларускімі фільмоўцамі, якія адбываліся пасля некаторых фільмаў, калі збіралася большая колькасць людзей. Шкада толькі, што пасля першых двух дзён некаторыя госці выехалі ў Кракаў і вярнуліся ўжо толькі на апошні фільм. У Кракаве рабілі яны здымкі да новага дакументальнага фільма пра Скарыну, які будзе мець канкрэтнае прызначэнне для вучняў сярэдніх школ (рэжысёр — Ул. Колас).

Першым беларускім фільмам, які быў паказаны ў ГП БГКТ пасля пяцігадовага перапынку, была прэм'ера фільма „Маці ўрагану" паводле аднайменнай трагедыі Уладзіміра Караткевіча, апошняга твора вялікага пісьменніка. Рэжысёр фільма — Юры Марухін. Фільм паказвае фрагмент гісторыі беларускага народа, менавіта Крычаўскае паўстанне 1743—1744 гадоў, усхваляе мужнасць паўстанцаў, што гінулі на шыбеніцах за волю і чалавечую годнасць свайго народа. Фільм гэты быў паказаны сёлета на свяце славянскай пісьменнасці ў Мінску, але ў пракаце яго яшчэ няма. На экранах беларускіх кінатэатраў ён паявіцца толькі ў студзені.

Пасля фільма разгарнулася гарачая дыскусія. Гледачы падкрэслівалі, што дзякуючы такім фільмам нараджаецца нацыянальная свядомасць, што менавіта тут упершыню паказаны нацыянальны акцэнт, у той час, калі раней паказваўся толькі сацыяльны. Хаця... фінал мог бы быць больш аптымістычным для будучыні Беларусі, лічылі некаторыя, мог бы быць як бы пасланнем для сённяшняга дня.

Былі і іншыя закіды фільму, вось хаця б наконт постаці святара, які гаворыць на цудоўнай беларускай мове (а вядома ж, як з гэтым было і ёсць). Таксама і малітвы гавораца на добрай беларускай мове, а не на царкоўнаславянскай. На гэткія закіды рэжысёр Юры Марухін тлумачыўся, што кансультантам быў прафесар Адам Мальдзіс, 



сардэчны сябра Уладзіміра Караткевіча; вырашылі слоў вялікага беларускага пісьменніка не змяняць.

Усё ж дыскусіі пасля фільмаў даказалі, што нялёгка дагадзіць гледачу. Вось хаця б другі дзень — фільмы рэжысёра Уладзіміра Коласа „Барвовая трава" і „Адна ноч" (паводле Васіля Быкава) з яго тэмай чалавечай нянавісці між столярам і тыншлерам толькі за тое, што адзін з іх беларус, а другі немец. Вайна! У „Адной ночы" беларуса іграў артыст Віцебскага драматычнага тэатра Яўген Шыпіла, а на ролю немца Уладзімір Колас знайшоў у Панявежасе літоўскага акцёра Аўрымаса Бабкаўскаса, якому, зрэшты, роля немца вельмі ўдалася. Сакрат Яновіч першы фільм назваў вучнёўскім (гэтага не скрываў і сам рэжысёр), а была гэта жартоўная замалёўка на тэму вясковага кахання. Другі, па Быкаву, быў,

(Працяг на стар. 6)

І ўсходнееўрапейскі семінар



## ВЫЗВАЛІЦЦА АД НЯВЕДАННЯ

Па ініцыятыве незалежных навукоўцаў і грамадскіх дзеячаў, якія бачаць і цэняць новыя шанцы, якія адкрыліся перад усходняй Еўропай, якая пастаянна вызваляецца ад таталітарызму, узнікла канкрэтная праграма дзеяння дзеля супрацоўніцтва ўсходнееўрапейскіх народаў. Мэты гэтых дзеянняў — вызначаныя грамадскімі патрэбамі, а не праграмамі якіх-небудзь палітычных груповак. Падстава — выяўленне праўды, звяржэнне псіхалагічных бар'ераў, якія дзеляць народы, заўважэнне супольных інтарэсаў і каштоўнасцяў і яднанне з мэтай рэалізацыі найважнейшых задач.

Дзякуючы блізкаму супрацоўніцтву сядлецкага Цэнтра культуры і мастацтва, бургамістру горада і гміны Морды і Навучальнай установы рэгіянальных і этнічных даследаванняў Інстытута культуры ў Варшаве, апрацавана ўжо праграма, якая прадбачвае выдаваць пастаянны бюлетэнь „Прыбліжэнні" („Zbliżenia"), распачаць уступныя працы, якія будуць падставай для стварэння Цэнтра ўсходнееўрапейскіх даследаванняў у Седльцах і арганізавання штогод усходнееўрапейскіх семінараў на тэрыторыі Сядлецкага ваяводства з удзелам прадстаўнікоў навукі і практыкі дзяржаў усходняй Еўропы.

І усходнееўрапейскі семінар праводзіўся ў кастрычніку г.г. у Седльцах, Хлевісках і Мордах. Вёў яго дацэнт доктар **Ежы Дамрош,** кіраўнік установы рэгіянальных і этнічных даследаванняў Інстытута культуры ў Варшаве. Запрошаны былі найбольшыя аўтарытэты ў галіне ўсходнееўрапейскіх нацыянальных суадносін, м. інш. д-р Аляксандра Немчыкова (дачка Станіслава Цат-Мацкевіча), д-р Лявон Брадоўскі (рэдактар „Літуані", старшыня Агульнапольскага клуба сяброў Літвы), перакладчык Ежы Літвінюк, Багдан Скарадзінскі, Ежы Тамашэўскі, Сакрат Яновіч... На жаль, не паявіліся ні Е. Тамашэўскі (я сама давезла яго спозненыя ліст да

(Працяг на стар. 6)




— 17 —

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Каля года таму назад прыязджала да нас група беларускіх акцёраў. Былі гэта свядомыя беларусы і добра валодалі беларускай мовай. Для мяне была гэта прыемная нечаканасць. Шмат гадоў таму назад я, будучы яшчэ маладым чалавекам, сядзеў у кафэ, якое змяшчалася ў біскупім доміку, што знаходзіцца недалёка ад Дома афіцэраў у Мінску. Кафэ гэта было прызначана для мастацкага свету сталіцы БССР. Збіраліся там галоўным чынам акцёры з тэатра імя Янкі Купалы, які размяшчаўся паблізу кафэ. Я тады быў яшчэ наіўным чалавекам і верыў, што, хто як хто, але тыя, што так прыгожа гавораць на сцэне па-беларуску, паслугоўваюцца гэтай мовай у паўсюдным жыцці. Памятаю, што я быў у тэатры на п'есе Івана Мележа па матывах „Людзей на балоце". Якраз у кафэ і прыйшлі героі п'есы — акцёры тэатра, якія, седзячы за столікам, рэзалі ва ўсю па-руску. Я быў там з групай беларускіх хлопцаў, для якіх нацыянальнае было намнога важнейшым, чым інтэрнацыянальнае. Пасля слоўнага кантакту з акцёрамі, якія дэманстрацыйна падкрэслівалі, што „руская речь" для іх мае намнога большае значэнне, чым нейкая там беларуская мова. Гутарка набрала вострага характару не толькі ў сувязі з нашымі супрацьстаўнымі прынцыпамі, але і колькасцю выпітага каньяку, які тады каштаваў медзяныя капейкі. Урэшце нехта з нашай групы крыкнуў аднаму з акцёраў: „Які дурань даў табе званне народнага артыста БССР, калі ты „ні бэ, ні мэ" па-беларуску?". Вось гэта і было той мінай, якая ўзарвала нашы столікі. З вялікай ахвотай мы палезлі на акцёраў, а акцёры на нас. Практычна ўсе мы мелі роўныя шанцы і шанцы гэтыя выкарысталі. Звяліся яны да таго, што кожны даў некалькі разоў па мордзе і сам атрымаў па мордзе таксама. Завішчэлі дзяўчаты, заохалі і заахалі старэйшыя. Збегся народ і паразвалакалі нас у розныя бакі. Занялі мы новыя столікі, на гэты раз больш аддаленыя ад сябе, і як адны, так і другія паводзілі сябе як пераможцы. Не ведаю, ці была гэта першая нацыянальная бітва паміж беларусамі, ці не. У кожным выпадку ўспамінаю яе не з сорамам, а з гонарам. Ад гэтага здарэння я на беларускіх акцёраў паглядаў з пагардай. Былі яны для мяне сімвалам нацыянальнага рэнегацтва. І раптам паявіліся ў Беластоку з выразнай нацыянальнай свядомасцю і з добрым веданнем мовы. Кантакт з імі стаўся для мяне пераломам у трактоўцы беларускага акцёрства. Хаця я ведаю, што сярод гэтага акцёрства ў далейшым многія гэта нацыянальныя адшчапенцы, аднак добра, што паявіліся сапраўдныя сыны нацыі. І вось адзін з гэтых акцёраў сказаў наступнае: „Ідзем мы, прыхільнікі Беларускага народнага фронту, па вуліцы з бел-чырвона-белымі сцягамі і „Пагонямі", а людзі з тратуараў кідаюцца да нас з кулакамі. Затрымліваемся і пытаем тых, хто на нас махае кулакамі: „Дык што, хочаце, каб у далейшым кіравалі вамі камуністы?" А яны нам на гэта: „Хай яны прападуць пропадам. Не хочам ні камуністаў, ні вас. Хочам спакойнага, нармальнага жыцця. Хочам, каб заўтра жылося нам не горш, чым сёння. Вашых заклікаў есці не будзем, нам хлеб патрэбны!"

І вось у гэтым усім і загвоздка. Радасна, што паявілася плеяда свядомых беларускіх акцёраў, але ж надалей няма свядомага беларускага грамадства. Яно не разумее, што, мабыць, не можа быць перамены на лепшае ў эканоміцы без пераўтварэнняў у галіне палітыкі. Аднак беларускае грамадства выразна перакормлена палітыкай і недакормлена хлебам. Апрача гэтага, няма сімптомаў, якія б сведчылі аб тым, што захоча яно ангажавацца ў палітычныя дзеянні, вынікаў якіх ніхто прадбачыць не можа. Згэтуль вынікае яго палітычная стрыманасць, а нават палітычны нігілізм. Дрэннымі былі б мы сынамі свайго народа, калі б сказалі аб ім, што ён неразумны, недарослы і што нічога не разумее. Народ не ёсць групай акцёраў, якім можна даць па твары. Мусім жыць і дзейнічаць сярод такіх беларусаў, якія ёсць, калі не хочам стацца акцёрамі пустой сцэны. Мабыць, трэба звесці сваю ролю да ролі кропляў, якія размываюць скалы. Не можам разлічваць на раптоўны эфект. Патрэбны доўгі, доўгі час, які ўсё ж працуе ў карысць беларускіх адраджэнскіх сіл, якіх не трэба атаясамліваць толькі з Беларускім народным фронтам, ці ў нашым выпадку толькі з БГКТ. А ўвогуле дык парадокс заключаецца ў тым, што пятнаццаць гадоў таму назад мы кінуліся на акцёраў за тое, што яны не беларусы, а сёння мяшчане кідаюцца на акцёраў за тое, што яны беларусы.

**Алесь Баркскі**

# ЗВАРОТ
## ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Вельмі паважаныя спадары і спадарыні!

Таварыства беларускае мовы імя Францішка Скарыны шле Вам сяброўскае прывітаньне і зычыць плёну ў Вашай высакароднай працы на ніве беларускага Адраджэньня.

Таварыства імкнецца прыдбаць шчырых сяброў і аднадумцаў паўсюль, дзе жыве беларуская мова, а рэдакцыя „Нашага слова" зацікаўлена мець сваіх чытачоў, дарадчыкаў і аўтараў і між суайчыннікамі, якія жывуць далёка ад Бацькаўшчыны. На жаль, „Наша слова" да часу выдаецца на грамадскіх асновах, што раптам ня можа не адбіцца на якасьці друку.

Для пашырэньня выдавецкай дзейнасьці Таварыства зацікаўлена мець уласную друкарню, тым лікам і з мэтай перавыдаваць тую частку айчыннай спадчыны, якую абыходзіць увагай Дзяржкамдрук, а таксама дзеля перадруку шэрагу беларускіх кніг і часопісаў, што выходзілі і выходзяць у ЗША, Канадзе, Вялікабрытаніі, Ватыкане, Польшчы і іншых краінах. Так, Таварыствам выдадзена або рыхтуецца да друку „Кароткі агляд гісторыі Беларусі" П. Рагача (Кліўленд, 1968), „Расейска-беларускі слоўнік" В. Ластоўскага (Коўна, 1924), „Геаграфія Беларусі" А. Смоліча (Вільня, 1923) і інш.

Просім Вас, калі маеце на тое магчымасьць, дасылаць у бібліятэку Таварыства копіі беларускіх эміграцкіх выданьняў. Паведаміце, ці маеце патрэбу атрымоўваць „Наша слова". Наша выданьне ў 1991 г. дасылаецца за кошт ТБМ, разам з тым нагадаем, што Таварыства прымае ахвяраваньні і ўклады ад сяброў і прыхільнікаў беларускага слова, тым лікам і ў замежнай валюце на рахунак 000700704 у Беларускім аддзяленьні Знешгандальбанку СССР. Валютныя сродкі ТБМ расходуе на набыццё камп'ютэрнай тэхнікі і друкарскага абсталяваньня.

Таварыства мае намер стварыць рэкламна-турыстычны культурны цэнтр з мэтаю дапамагчы беларусам і ўсім зацікаўленым асобам з замежжа знайсьці дарогу на Бацькаўшчыну і дзеля аказаньня дапамогі суграмадзянам у выездзе ў краіны, дзе іх не абміне ўвага і прыхільнасьць з боку грамадскіх аб'яднаньняў суайчыньнікаў і прыватных асоб. Запрашаем усіх саўдзельнічаць заснаваньню інфармацыйнага банку, бібліятэкі, збору фона- і відэаматэрыялаў згаданага культурнага цэнтра.

Жыве Беларусь і наша мова!
З пашанай —

**Цумараў Яўген,**
намеснік старшыні Таварыства беларускае мовы імя Францішка Скарыны, Народны дэпутат Беларускай ССР

Наш адрас:
**Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**
**220005 г. Мінск**
**вул. Румянцава, д. 15, кв. 13.**

# З мінулага тыдня

**Лех Валэнса выбраны прэзідэнтам Рэчыпаспалітай Польскай.** У другім туры выбараў атрымаў ён 74,25 прац. галасоў, а яго супернік Станіслаў Тымінскі — 25,75 прац. У выбарах удзельнічала 53,40 прац. выбаршчыкаў.

**Тадэуш Мазавецкі ўзначаліў Дэмакратычную унію,** якая з'яўляецца рэпрэзентантам палітычных сілаў, падтрымаўшых яго ў прэзідэнцкіх выбарах. Структура гэтай палітычнай сілы паўстала таксама ў Беластоку.

**Генерал Войцех Ярузельскі** на ўрачыстым пасяджэнні Ваеннай рады Міністэрства народнай абароны развітаўся з арміяй як начальнік узброеных сіл РП.

**Савецкі Саюз атрымоўвае гуманітарную дапамогу** ад 21 краін. Масква вядзе перагаворы наконт крэдытаў для пакупкі харчовых прадуктаў.

**Міхаіл Казінец** — галоўны дырыжор Дзяржаўнага народнага аркестра БССР імя І. Жыновіча дырыгаваў Сімфанічным аркестрам Беластоцкай філармоніі. У праграме былі: уверцюра да оперы Карла Марыі Вебера „Аберон", IV брандэнбургскі канцэрт Іагана Себасцьяна Баха і сімфонія „G-moll" Вольфганга Амадэя Моцарта.

**Абакрадзена царква ў Каралёвым Мосце.** Невыяўленыя злачынцы вынеслі дзевяць іконаў, евангелле і іншыя прадметы. Следства вядзе Ваяводская камендатура паліцыі ў Беластоку.

**Беластоцкія эсперантысты** стварылі незалежнае ад Польскага саюза эсперантыстаў у Варшаве Беластоцкае таварыства эсперантыстаў. Увесь эсперанцкі свет асацыюе Беласток з д-рам Людвікам Заменгофам і планам стварэння тут Цэнтра культуры і навукі яго імя. Дагэтуль кожная ініцыятыва беластаччан патрабавала благаславенства варшаўскай „гары".

**Міжнародная сустрэча мастацка-лялечных інстытутаў** праходзіла ў Беластоку. Акцёры і рэжысёры лялечных тэатраў з Балгарыі, Чэхаславакіі, Францыі, Нямеччыны, Савецкага Саюза і Польшчы, а таксама студэнты і крытыкі вялі дыскусію аб прафесіі акцёра-лялечніка. Сустрэчы спадарожнічалі спектаклі лялечных тэатраў з Беластока і Яленяй Гары.

**Члены Грамадзянскага камітэта Беластоцкай зямлі** з заклапочанасцю прынялі факт, што ў першай туры выбараў жыхары ўсходніх гмінаў Беласточчыны (населеных пераважна беларусамі) не галасавалі на Леха Валэнсу. Напрыклад, у гміне Чыжы на старшыню „Салідарнасці" галасавала толькі 1,2 прац. выбаршчыкаў, а ў гміне Орля — 1,9 прац.

**У Бельску-Падляшскім** і наваколлі зарэгістравана звыш 1,3 тысячы беспрацоўных.

**Новы вакзал** (чыгуначны і аўтобусны) быў аддадзены ў карыстанне ў Бельску-Падляшскім. Здзяйсніць мары бяльчан дапамог генеральны дырэктар ПДОКП Рышард Альшэўскі, радавіты бяльчанін.

**26 белавежскіх зуброў** будзе перададзена бясплатна ў Францыю.




**МАЯ ПРАПАНОВА**

Нядаўна з тэлевізійнай паліцыйнай хронікі я даведаўся, што на сто дарожна-транспартных выпадкаў аж семдзесят выклікаюць жанчыны, якія не прытрымоўваюцца правілаў дарожнага руху. Я гэта ўспрыняў з жахам, бо хто з нас, мужчын, ведае, што недзе на скрыжаванні дарог трапіцца нам жанчына, якую трэба абавязкова прапусціць, хаця паводле правілаў мы павінны ехаць, бо чырвоны светафор перад носам жанчыны-вадзіцеля. Жанчына з-за сваёй упартасці і пачуцця перавагі над мужчынамі ведае, што яна каралева не толькі ў хатніх умовах, але і на шашы. Таму іменна вымушае першынства пераезду, нягледзячы на тое, што яе на шафёрскіх курсах вучылі інакш.

Каб не ўваходзіць нам, джэнтльменам, у канфлікт з прыгажунямі за рулём, прапаную ўвесці наступную папраўку ў правілы дарожнага руху: кожны самаход, які кіруе жанчына, павінен быць пазначаны вялікімі літарамі „К" (як кабета). Літара павінна быць чырвонага колеру на белым фоне, і падсветленая лямпачкай увечары. Тады брыдкая палавіна шафёраў будзе ведаць, што такі самаход абавязкова трэба прапусціць не толькі дзеля ветлівасці, але і для свайго дабра. Няхай будзе яшчэ адна перамога жанчын, але затое будзе менш трупаў.

**Васіль Петручук**

**КАБ НЕ ГАРЭЛІ ХРАМЫ**

27 лістапада г.г. у Супраслі адбыўся, упершыню ў Польшчы, сімпозіум, прысвечаны прычынам пажараў і супрацьпажарнаму забеспячэнню сакральных аб'ектаў. У сустрэчы, апрача пажарнікаў, удзел прымалі настаяцелі рымска-каталіцкіх і праваслаўных прыходаў, а таксама прадстаўнікі іншых веравызнанняў.

Да сімпозіума пажарнікі скантралявалі 205 храмаў (85 прац. усіх сакральных аб'ектаў у ваяводстве). Высновы з гэтага кантролю былі прадстаўлены сабраным. За апошнія дваццаць гадоў у Беластоцкім ваяводстве ўспыхнула чатырнаццаць пажараў, у тым ліку адзінаццаць у цэрквах, два ў касцёлах і адзін у Тыкоцінскай сінагозе. Поўнасцю згарэлі пяць цэркваў (у Кленіках, Чыжах, Ячне, Крушыняnах, на Грабарцы) і праваслаўная плябанія. Часткова згарэлі касцёл, царква, праваслаўная плябанія, дом рабіна.

Прычынай пажараў у чатырох выпадках было падпаленне, у двух — гарэла сажа, у трох астатніх — была неасцярожнасць людзей, дэфект электраправодкі і ўдар перуна. У пяці выпадках прычына пажару не ўстаноўлена.

У сімпозіуме ўдзельнічалі прадстаўнікі шведскай фірмы „USP International", якія пазнаёмілі прысутных з відамі праводкі, асцерагаючай ад пажараў і ўзломаў. **(л)**

# У ВЯНОК 500-ГОДДЗЯ

Набліжаецца завяршэнне знамянальнай даты — 500-годдзя з дня нараджэння вялікага ўсходнеславянскага асветніка і гуманіста, першадрукара, вучонага-энцыклапедыста, доктара свабодных навук і медыцыны, філосафа і філолага, беларускага „тытана духу" эпохі Адраджэння Францыска Скарыны (1490?—1551?). За перыяд юбілею вялікага Палачаніна беларуская і сусветная Скарыніяна папоўнілася выдатнымі, часта фундаментальнымі працамі, звязанымі з ягоным жыццём і дзейнасцю на ніве беларускай і ўсходнеславянскай культуры. Адной з іх з'яўляецца другая на Беларусі (пасля Купалаўскай) персанальная энцыклапедыя „Францыск Скарына і яго час"*) — своеасаблівы падрахунак развіцця скарыназнаўства ў краіне, у якой перад намі паўстае чалавечы, духоўны і творчы воблік беларускага перакладчыка і пісьменніка, раскрываецца ягоны мнагагранны талент. У энцыклапедыі разглядаюцца, між іншым, філасофска-этычныя, дзяржаўна-прававыя, а таксама эстэтычныя погляды аўтара „Бібліі рускай" у кантэксце часу і адраджэнскай эпохі. Аналізуецца ягоная кнігавыдавецкая, асветніцкая, літаратурная і навуковая дзейнасць. Гэта, бадай, ці не адзін з найкаштоўнейшых падарункаў беларускай навукі ўсёй Еўропе і свету ў вянок юбілею. Але гэтым не вычэрпваецца комплексная праграма падрыхтоўкі Акадэміі навук БССР да вывучэння культурна-гістарычнай спадчыны вялікага сына беларускага народа ў сувязі з ягоным 500-годдзем з дня нараджэння.

Яшчэ ў тым жа 1988 г. у сталіцы Беларусі з'явілася падрыхтаваная Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР кніжка „Францыск Скарына. Зборнік дакументаў і матэрыялаў"**), а праз год — „Спадчына Скарыны. Зборнік матэрыялаў першых Скарынаўскіх чытанняў (1986)"***), складальнікам якой стаў Адам Мальдзіс.

У першым са зборнікаў, зложаным Віктарам Дарашкевічам, упершыню былі сабраны і пракаменціраваны дакументы, прысвечаныя выдатнаму дзеячу славянскай культуры, а таксама матэрыялы, звязаныя з ягоным імем. У кнізе прыведзены ў храналагічным парадку ў першай частцы дакументы і матэрыялы, у другой — выданні Францыска Скарыны. Увесь зборнік папярэджвае грунтоўная прадмова Віктара Дарашкевіча — „Вялікі ўсходнеславянскі першадрукар і асветнік-гуманіст".

„Спадчына Скарыны" — гэта зборнік матэрыялаў першых Скарынаўскіх чытанняў, якія адбыліся ў Мінску восенню 1986 г. і запачаткавалі фактычна ўрачыстае святкаванне круглага юбілею. Прынялі ў іх удзел вучоныя з Расіі, Украіны, Літвы і Беларусі. Сабраныя Адамам Мальдзісам у ім артыкулы прысвечаны самым розным аспектам жыцця і дзейнасці заснавальніка рэнесансна-нацыянальнай традыцыі ў культуры ўсходнеславянскіх народаў, ягонай гістарычнай ролі ў развіцці беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання. Вялікі беларускі асветнік параўноўваецца ў ім з такімі тытанамі эпохі Адраджэння, як Леанарда да Вінчы і Альбрэхт Дзюрэр. Кніга складаецца з двух раздзелаў: "Эпоха і справа Скарыны" і „Традыцыі Скарыны". Адкрывае яе ўступнае слова віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук БССР, акадэміка Івана Навуменкі і публікацыя „Скарыназнаўства: вынікі і перспектывы" доктара філалагічных навук, прафесара Яўгена Неміроўскага з Масквы. Скарынінскія чытанні, — спадзяемся, — гэта ўсяго толькі пачатак грунтоўнага вывучэння ўсёй духоўнай і культурнай спадчыны вялікага земляка з Полацка.

Плённым для беларускай навукі аказаўся і 1990 год, год знамянальнага Скарынаўскага юбілею. Дзве кніжкі, якія выдала мінскае выдавецтва „Навука і тэхніка" — „Францыск Скарына. Жыццё і дзейнасць. Паказальнік літаратуры"****) і „Францыск Скарына. Творы. Прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія"*****) — гэта выдатны ўклад у беларускую і сусветную Скарыніяну.

Каштоўнасць першай з іх у тым, што як бібліяграфічны паказальнік з'яўляецца яна бясцэнным крыніцай інфармацый пра амаль 2900 назваў разнародных прац аб Скарыне, апублікаваных дагэтуль, неабходных для ўсіх тых гісторыкаў, філолагаў, мастацтвазнаўцаў і кнігазнаўцаў, якія і надалей працягваюць вывучэнне ягонай спадчыны. Сярод іх ёсць як грунтоўныя манаграфічныя даследаванні, так і артыкулы па вузкіх, спецыяльных пытаннях. У анатаванай бібліяграфіі аб'ём існуючай дагэтуль інфармацыі павялічаны амаль удвая і ўключае крыніцы айчыннай і зарубежнай літаратуры, апублікаванай у 1539—1989 г.г. Складальнікі не забыліся ў ёй і пра спробу стварэння першага самастойнага бібліяграфічнага даведніка, прысвечанага жыццю і дзейнасці Францыска Скарыны, аўтарам якога з'яўляецца Вітаўт Тумаш („Бібліяграфія Скарыніяны, 1492—1967", Мюнхен, 1970).

Аднак, мабыць, найбольшую цікавасць з усіх прадстаўленых тут кніг выклікаюць арыгінальныя творы вялікага Палачаніна, падрыхтаваныя і пракаменціраваныя вядомым беларускім літаратуразнаўцам і тэкстолагам Аляксандрам Коршунавым. Пакінутая Скарынай для нашчадкаў спадчына ўключае 22 прадмовы і 25 сказанняў да выдадзе-

## АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК
# У цяні Ватыкану

### 3. ДЭМАКРАТЫЯ ПА-ІТАЛЬЯНСКУ

Над вуліцай Прымірэння — галоўнай „страдай" з Рыма ў Ватыкан, уфармаваўшы раўнабокі трохвугольнік, павіслі тры паліцэйскія верталёты. Злавеснае гудзенне іхніх матораў гулкім рэхам адбівалася на плошчы Святога Пятра і нікла ў ватыканскіх агародах. Мітуслівы Рым замёр як у сне. У паветры вісела нешта надзвычайнае. Я заняў месца на правым баку вуліцы, побач трох маладзенькіх італьянак, якія няйначай як са школы паўцякалі, каб пабачыць гэтае нештадзённае відовішча. А было на што глядзець. Вось-вось мелі сутыкнуцца зямное і нябеснае валадарствы. Схіл дваццатага стагоддзя не скупіўся нечаканасцямі. Усхвалявана насць трох суседак дасягнула зеніту (было ў іх нешта ўзбуджана-эратычнае): з-за паварота паказалася калона мерседэсаў. З натоўпу ў адзін голас вырвалася бясконца-ўтрапёнае: *„Gorbi! Gorbi!"*

Праз прыцемненыя шыбіны дыпламатычных машын не згледзеў я прэзідэнта, а толькі ручку ягонае малжонкі, якая памахала прагнаму вялікае палітыкі натоўпу. Не зусім задаволены, я хуценька кінуўся ў Ватыканскае радыё, дзе ў зале імя Марконі, на велізарным экране, ішла па першым канале італьянскага дзяржаўнага тэлебачання непасрэдная трансляцыя візіту Гарбачова ў Ватыкан. Гледачоў было шмат. Прэзідэнта і яго малжонку прыняў Папа Рымскі ў прысутнасці кардыналаў. Каментатар італьянскага тэлебачання (дарэчы, было іх, бадай, двух) даваў як з аўтамата. Палітыка ды ўсё тое, што хоць крышачку ёю пахне — іхняя стыхія. Яны ўжываюць шмат слоў, каб нічога не сказаць. Кіраўнік Беларускай секцыі, айцец Тамушанскі, быў пад уражаннем густоўнай вопраткі прэзідэнцкіх. А я, каб адсвежыць спраўжнэнне італьянскіх дзеясловаў, дастаў з торбы буталь *Nastro Azzurro* (у бары ля Борга Піо не дастанеш яго танней як па 2500). Афіцыяльныя перамовы мелі пачацца праз некалькі мінут, калі прыбудуць перакладчыкі. Да гэтага часу Папа Рымскі зачыніўся з Гарбачовым ва ўтульным кабінеце, дзе, праўдападобна, *общепонятный* заступіў спектакулярных перакладчыкаў. Кардыналы ж гэтым часам суправаджалі прэзідэнцыху па ватыканскіх залах. Чырвань сукні малжонкі прэзідэнта сваім адценнем адпавядала колеру паясоў кардынальскага канклава. Рэжысёр пераплятаў трансмісію пакутным фільмам пра ўкраінскіх уніятаў.

Увесь гэты дзень на Ватыканскай радыёстанцыі ляскаталі машынкі. Журналісты ліхаманкава рыхтавалі першыя прызнята-ўсхваленыя рэпартажы-каментарыі. Слова „камунізм" упершыню пачалося ўжывацца ў іх без неадлучнага дагэтуль

ных ім на працягу 1517—1525 г.г. кніг Біблії, тры вершы, два гімны, пасхалію з „Малой падарожнай кніжкі" 1522 г. і больш за 60 пасляслоўяў да асобных ягоных выданняў. У найбольш плённы пражскі перыяд дзейнасці Скарына за два з палавінай гады выпусціў 23 кнігі ў амаль 2400 старонак. У 1517 г. Псалтыр, „Іоў", „Прытчы прамудрага Саламона", „Ісус Сірахаў", у наступным, 1518 — „Эклезіяст", „Песня песняў",



*Свечкі ля помніка Ф. Скарыну ў Полацку.*

*Фота Ул. Панады.*

„Прамудрасць божая", чатыры кнігі „Царстваў" і „Ісус Навін". 11 кніг Біблії, агульным памерам у 1052 старонк. — у 1519 г.: „Юдзіф", „Быццё", „Другі закон", „Данііл-прарок", „Эсфір", „Руф", „Плач Ераміі", „Выхад", „Левіт", „Лічбы" і кніга „Суддзі", пазначаная датай 15 снежня таго ж года. Існуюць меркаванні, што Францыск Скарына, акрамя ўспомненых кніг Старога запавету, выдаў яшчэ такія творы старазапаветнага зводу Біблії, як 2 кнігі „Параліпаменона", 2 кнігі „Ездры", 2 кнігі „Макавеяў", кнігі „Неямія", „Товіт" і некаторыя іншыя, але, на жаль, не дайшлі яны да нашага часу. Да нашых дзён не захавалася таксама выдадзеная беларускім першадрукарам кніга „Прароцтвы Ераміі", пра выданне якой згадваў сам перакладчык. Выдавецкую дзейнасць Скарына працягваў у сталічным горадзе Вялікага княства Літоўскага Вільні, у якую перасяліўся ён недзе ў пачатку 1520 г. Тут у 1522 г. выйшла „Малая падарожная кніжка", а затым — у 1525 г. „Апостал".

Літаратурна-публіцыстычная спадчына, якую пакінуў нам сучаснік Марціна Лютэра і Меланхтана (сустракаўся з імі ў 1525 г. у Вітэнбергу) з'яўлялася творчым сінтэзам нацыянальных здабыткаў з дасягненнямі еўрапейскай культуры. Скарына быў адным з першых беларусаў, які ўжо тады адкрываў дзверы Беларусі ў Еўропу. Каб не Скарына, не было б і ў нас у 1568 г. сваёй друкарні ў Заблудаве. На жаль, уся яна (спадчына) чакае яшчэ свайго грунтоўнага і ўсебаковага даследавання. Таму, каб хоць крыху наблізіць яе сучаснаму чытачу, свой кнігапіс закончу патрыятычным выказваннем слаўнага юбіляра: „Понеже от прирождения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по воздуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; ... тако ж и люди, игде зродилися и скормлены... к тому месту великую ласку имають".

**Юры Трачук**

---

*) Францыск Скарына і яго час. Энцыклапедычны даведнік, Выдавецтва „Беларуская Савецкая Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, Мінск 1988, сс. 608.

**) Францыск Скарына. Зборнік дакументаў і матэрыялаў, „Навука і тэхніка", Мінск 1988, сс. 349.

***) Спадчына Скарыны. Зборнік матэрыялаў першых Скарынаўскіх чытанняў (1986), „Навука і тэхніка", Мінск 1989, сс. 318.

****) Францыск Скарына. Жыццё і дзейнасць. Паказальнік літаратуры, „Навука і тэхніка", Мінск 1990, сс. 269.

*****) Францыск Скарына. Творы. Прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія, „Навука і тэхніка", Мінск 1990, сс. 207.

# ЗАЯВА САКРАТА ЯНОВІЧА

У мяне няма намеру паніжацца да вартай жалю палемікі з Юркам Трачуком. А Яўгена Чыквіна як нязменнага пасла ад Уніі і рэдактара „Tygodnika Podlaskiego" магу пацешыць, што канкурэнцыі яму я не зраблю ў блізкія выбары ў новы парламент (у мяне — вольнаму воля! — няма ахвоты быць кандыдатам у Сейм ці ў Сенат). Так што бярыцеся вы варагаваць з кім іншым!

*P.S — Чыквін з жонкаю, разгаварыўшыся ў „Ніве" ад 2 снежня, так і не сказалі, хто гэтая Жултоўская, калі не псеўданім (?). І чаму я вораг праваслаўя, арганізаваўшы пару мільёнаў злотых на царкоўнае будаўніцтва?*

---

**УВАГА, ЧЛЕНЫ І СІМПАТЫКІ ЛІТАБ'ЯДНАННЯ „БЕЛАВЕЖА"!**

**Чарговая літаратурная сустрэча, на гэты раз з Янам Чыквіным, адбудзецца 16 снежня ў аддзеле Саюза польскіх пісьменнікаў у Беластоку, вул. Кілінскага 6. Пачатак а гадз. 11-ай. Сардэчна запрашаем!**

---






**Добры дзень, „Ні-ва"!**

Па-першае, я вельмі засмучаны тым, што да нас на Беларусь ваша газета не даходзіць. Такіх, як я, шмат!

Як так можна! Хто віноўнік? І гэта ў час, калі ідзе адраджэнне Чалавека! Адраджацца мы павінны не толькі як беларусы ці палякі, і г.д.. Адраджэнне сына Зямлі павінна быць. І сын абавязаны адчуць у душы любоў да маці. А гэта любоў, калі яна ёсць, перарасце ў любоў да братоў сваіх...

А інакш — канец!

Да гэтага канца мы ішлі вельмі таропка, мы ілгалі адзін другому, прызнаючыся ў любові. На самай справе мы падміналі коламі нашай безрухоўнасці тых, хто слабейшы.

На чужых касцях у рай не заедзеш! Няўжо і сёння нехта гэта не зразумеў? Сёння сама прырода грукае ў чорны звон... Дык хто не дае беларусам падтрымліваць духоўную сувязь? Ганьба яму! Альбо ім!

Дарагія спадары „Нівы", я рады, што вы дазволілі мне зрабіць сціплы ўклад на пабудову Музея, а таксама пазнаёміў чытачоў з маёй творчасцю.

Дасылаю яшчэ нізку. Спадзяюся, што тое-сёе зацікавіць і добрая справа будзе прадоўжана.

У мяне будзе невялікая просьба: можа хто мне прышле нумары „Нівы" ад 23 верасня да канца года. Па 23 верасня ўключна з вялікімі цяжкасцямі ўдалося набыць. А далей такой магчымасці магу і не мець. Калі не цяжка! Буду ўдзячны.

**Янусь Малец, Мінск**

**Ад рэдакцыі:** За дасланыя творы сардэчна дзякуем. Будзем іх друкаваць на нашых старонках. Патрэбныя экземпляры „Нівы" дашлем. Хочам таксама паінфармаваць, што зараз вядуцца размовы наконт пастаўкі „Нівы" ў Беларусь. Аб выніках гэтых перагавораў неўзабаве паведамім нашых чытачоў.

---

эпітэта „бязбожны". Мне здалося, што цэлы Рым быццам бы загаварыў па-расейску. Нават канферансье забаўна-эратычнай перадачы, на адным з камерцыйных каналаў тэлебачання, шчыра *приветствовал* сваіх верных гледачоў і паўголых гераінь праграмы. А мне падумалася, што, калі б замест Гарбачова прыехаў Пазняк, дык, пэўна, сам Джуліо Андраоці запісаўся б у сябры БНФ. Італія ўбачыла найвялікшага чалавека дзікунскага Усходу і ўраз загарэлася сімпатыяй да яго. Вось як дзейнічаюць тыя заходнія дэмакратыі.

Хіба ж трэба тут казаць, на якім баку сімпатыя італьянцаў, калі ў сакавіку адарвалася ад імперыі Літва? Справа надзвычай простая: у нас свабода і дэмакратыя, казалі яны, людзі задаволеныя, ядуць макароны — так яно ў нас, так і на ўсім свеце быць павінна. Дык чаго яшчэ хочуць тыя *lituani*? Большменш такое ўражанне я меў. Памойму, ключом да зразумення такога стаўлення з'яўляецца не што іншае, як згаданыя макароны. Калі мая беластоцкая знаёмая, з якою лёс сутыкнуў мяне ў Рыме, заікнулася ў прысутнасці адной італьянскай арыстакраткі, што толькі ў адной Італіі людзі ўпадабалі есці на снеданне, абед і вячэру макароны, тая амаль у істэрыку ўпала, быццам хлусню ёй расказваюць. Не вельмі тут дапамог нават аўтарытэт ейнага пляменніка-біскупа, які падтрымаў маю знаёмую. Справу, аднак, палагодзіў Мусаліні, ва ўспаміны аб якім з сентыментам паглыбілася старэнькая *signora*.

Італія сёння падзяляецца на дваццаць адміністрацыйных рэгіёнаў. Пяць з гэтых дваццаці — аўтаномныя. Паасобныя рэгіёны адзначаюцца вялікаю моўнаю неаднароднасцю. Казалі мне, што жыхары поўначы краіны не разумеюць тых з поўдня. Не дапамагло ў вырашэнні моўнае праблемы нават увядзенне адной агульнадзяржаўнай нормы. Побач гэтае нормы, мовы газет і тэлевізіі, экзістуе шмат дыялектаў, некаторыя з якіх навучаюцца ў школах. Развіваецца на іх таксама і мастацкая літаратура. Не менш багаты і палітычны краявід краіны. Ён жа, у адрозненне ад моўнага, зусім няўцямны для вонкавага наглядальніка. Не разумеюць ў ім нават самі італьянцы. Адкрыта прызнаюцца, што маюць пэўныя праблемы ў арганізацыйнай сферы, што, дарэчы, знайшло сваё выяўленне ў прымаўцы: дзе два італьянцы, там тры палітычныя партыі. Не перашкаджае гэта, аднак, у правільным функцыянаванні дзяржавы, перад усім яе эканамічнага сектара (Італія — пятая гаспадарчая магутнасць свету). Час, калі штотыдзень падалі чарговыя ўрады, таксама, здаецца, ужо ў бяспечнай адлегласці ад сённяшняга дня. Краінаю кіруюць тры палітычныя сілы: хрысціянска-дэмакратычная, сацыялістычная і камуністычная партыі. Для распаўсюджвання ў грамадстве сваіх ідэй маюць гэтыя партыі ў сваім распараджэнні, між іншым, тры тэлевізійныя станцыі агульнадзяржаўнага абсягу, якія фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту. Такім чынам, італьянскае тэлебачанне служыць не ўраду ў цэлым, а паасобным палітычным плыням, якія яго складаюць. У межах права і палітычнае культуры партыі, незалежна адна ад другой, фармуюць інфармацыйна-прапагандысцкую палітыку ў сродках распаўсюджвання інфармацыі.

Блукаючы аднойчы па вулачках і завулках Рыма, нечакана трапіў я ў разгар дэманстрацыі. Нейкі прафсаюз нечага дамагаўся. Хуценька з'явіліся паліцэйскія машыны, з якіх выскачыла сотні дзве хлапчукоў у вайсковай форме. Я, прызвычаены да, так сказаць, класічнага ходу падзеяў у падобных сітуацыях, у жаху пачаў шукаць вулачкі, якою можна было б адступіцца. Тут жа спахапіўся. Сеў каля фантана і закурыў, каб суняць хваляванне. Яны ж прыехалі, каб ахоўваць дэманстрантаў.

*(Працяг будзе)*




## ЖЫЦЦЁ ГОДНАЕ

На мой погляд, думка, якую Алесь Барскі выказаў у фельетоне з цыкла „На мяжы" ў „Ніве" ад 18.XI.1990 г., няправільная.

Не так даўно Алесь Барскі заахвочваў беларусаў ствараць розныя партыі. У разнастайнасці ідэй бачыў ён ратунак для беларусаў Беласточчыны. Добра, што яны не паслухаліся добразычлівага паэта і стварылі толькі БДА. Добра таму, што кішэнных беларускіх партый ніхто б і не заўважыў на палітычнай карце Польшчы.

Цяпер Алесь Барскі асцерагае беларусаў з Беларусі перад незалежнасцю ад суседзяў, а перш за ўсё перад незалежнасцю ад Савецкага Саюза. Піша: „Уявіце сабе, што ўжо сёння Беларусь сарвала з сябе ўсе абмежаванні, накінутыя ёй Савецкім Саюзам, і сталася краінай незалежнай. Ну, і пачнуцца страшэнныя рэчы". Не паспела Беларусь і падумаць аб незалежнасці, як фельетаніст ужо палохае, што незалежнасць гэта страшная рэч. Калі Беларусь будзе незалежнай, то каму беларусы будуць веласіпеды прадаваць? Яны такія ж (веласіпеды — не беларусы) няўдалыя. А мусяць іх прадукаваць, калі „амаль уся сыравіна і паўпрадукты, неабходныя для выпуску веласіпедаў, пастаўляюцца з Расіі або з іншых рэспублік". Калі гэта праўда, то няхай расейцы самі іх складаюць.

Ці цяжка ўявіць, што залежнасць гэта першая і апошняя прычына таго, што беларусы робяць не тое, што хочуць рабіць і не так як трэба. Незалежнасць не праяўляецца ў тым, што незалежная нацыя прадукуе ўсё, што патрэбнае ёй для жыцця. Незалежнасць народа і дзяржавы праяўляецца ў тым, што эканамічныя, палітычныя і гаспадарчыя кантакты з іншымі залежаць толькі ад гэтага народа і бываюць яны такія, якія народ лічыць для сябе найкарыснейшымі.

Гляньма на справу незалежнасці і з другога боку. З фельетона А. Барскага вынікае, што беларусы прадаюць толькі халадзільнікі „Мінск", веласіпеды і... льняныя вырабы. Выходзіць на тое, што на Беларусі няма і не было ніякай індустрыі і не адбыліся дэмакратызацыйныя працэсы, што калі будзе незалежнай, то сама (чаму сама?) не дабяжыць да Еўропы?! А з Саюзам дабяжыць? Пэўна, так як і цяпер дабегла.

Я ўяўляю Беларусь як дэмакратычную дзяржаву, у якой сам народ вырашае аб усіх сваіх справах. Ці ж Барскаму невядома гісторыя Беларусі? З гісторыі вынікае, што суседзі дбалі толькі пра сябе, а з цягам часу каланізавалі беларускія землі і беларускі народ, а культуру зводзілі да фальклору. І яшчэ хачу сказаць, што годнае жыццё бывае тады, калі яно незалежнае, калі чалавек мае вольны выбар, а народ — ён жа як і чалавек.

**М.Куптэль**

# ПЕРШАЯ СПРОБА

(Працяг са стар. 1)

на яго думку, прафесіянальны. А іншым жа выдалася якраз наадварот. Ім спадабалася, што гэты першы фільм не цяжкі, вясёлы, можна яго глядзець.

Такіх „вясёленькіх" фільмаў у аглядзе больш не было. Было крыху „дакументу" (фільм пра Цішку Гартнага рэжысёра Уладзіміра Бокуна), было яшчэ „Дзікае паляванне караля Стаха" паводле Ул. Караткевіча. Быў таксама вядомы ваенны фільм „Ідзі і глядзі" (сцэнарый А. Адамовіча і Э. Клімава, рэжысёр — Э. Клімаў) — патрасаючая нізка жахаў з перыяду другой сусветнай вайны, паказваючая трагедыю Беларусі і працэс пертварэння чалавека ў звера (дзеці, кіданыя немцамі і бандэраўцамі ў агонь, „памятны" здымак з беларускім хлопцам, якому немец прыставіў пісталет да галавы, і г.д., і т.п.). Мяне ў гэтым фільме непрыемна ўразіла тая моўная беларуска-руская „трасянка", дзякуючы якой фільмоўцы хочуць трапіць аднача сова да рускіх і беларускіх сэрц, а матывуюць яе тым, што сёння на Беларусі так гавораць. Але ж у часе вайны на гэткай „трасянцы" людзі яшчэ не гаварылі!

Быў таксама і фільм пра сучаснасць, але і то гаварыў ён пра культ асобы і самагубства сумленнага чалавека („Наш бранепоезд" — сцэнарый Яўгена Грыгор'ева, рэжысёр — Міхаіл Пташук).

Нават адзіны фільм пра сучасную моладзь („Мяне завуць Арлекіна" — сцэнарый Ю. Шчыкаціхіна і В. Рыбарава, рэж. — В. Рыбараў) паказвае гвалты і брутальныя адносіны да жыцця, да чалавека.

Адным словам, як і ва ўсім савецкім фільме, у беларускім фільме запанавала мода на „чарнуху". І беларускія фільмоўцы не патрапяць выкруціцца ад гэтай моды, хаця, як і раней, у жыцці чалавека ўсё ж бываюць светлыя моманты, людзі кахаюцца, жэняцца, нараджаюцца дзеці...



На гэты пакутлівы сум звярталі таксама ўвагу і гледачы з некаторых мясцовасцей Беластоцкага ваяводства, якія на месцы мелі магчымасць паглядзець прапанаваныя фільмы (сакратар ГП Віктар Стахвюк асабіста развозіў іх).

Лічу, што недахопам беларускіх фільмаў, прывезеных на І Агляд у Польшчу, было тое, што мала іх было на беларускай мове. Робяцца яны наогул па-руску „для шырокага гледача", а толькі пасля некаторыя агучваюцца па-беларуску. Рэжысёры (Ул. Колас) наогул скардзіліся, што не маюць у Мінску зашмат добрых акцёраў, фільмы найчасцей здымаюцца ў Маскве, там даюць акцёраў. А беларускія хлопцы і дзяўчаты, якія заканчваюць УДІК у Маскве, не заўсёды вяртаюцца на Беларусь.

Аднак жа некаторым рэжысёрам больш адпавядае інтэрнацыяналізм у фільме (нават бурат-мангол можа зрабіць беларускі фільм з асаблівым почыркам, лічыць Ю. Марухін). А нам здаецца, што почырк у гэтым фільме будзе ўсё ж мангольскі і беларускага духу ў ім не будзе.

Здаецца, усё было падрыхтавана да агляду як след, а ўсё ж такі нешта выйшла не так, нечага не хапала. Не хапала менавіта... натоўпу гледача, яго аўтэнтычнага захаплення беларускім фільмам, яго адданасці кожнай праяве беларускай культуры. Былі ж сеансы, з якіх выходзіла сем чалавек.

Думаю, што на такі стан рэчаў зрабіў адмоўны ўплыў агульны крызіс кіно. Кіно сёння прыйшло ў хату. Людзі, прывыкшыя аглядаць фільмы з пазіцыі мяккіх канапаў ці крэслаў, не надта горнуцца да цвёрдых крэслаў у кінатэатрах. А дзе ж амбіцыі, што вось жа прыехаў беларускі фільм, непаўторны, першы раз у нас, на Беласточчыне?.. А гэта ўжо, відаць, стала другараднай справай.

Яшчэ найбольш людзей збіра-

(Працяг са стар. 1)

Хлевіскаў), не дачакаліся ні С. Яновіча, ні Я. Мірановіча, ні А. Баршчэўскага, хаця яны раней пацвердзілі прыбыццё на семінар. Не падвяла прафесар Альжбета Смулкова, рэферат якой „Беларускія праблемы ў польскай навуцы" быў адзіным навуковым голасам на беларускую тэму. Адзіным, апрача мяне, прадстаўніком нацыянальнай меншасці, быў пасол Уладзімір Мокры, які меў прадставіць даклад аб рэлігійнай уніі ў працэсе культурнага сінтэза, але на жаданне ўдзельнікаў семінара больш увагі прысвяціў з'езду Нацыянальнага ўкраінскага руху, свайму і Адама Міхніка там удзелу і пастановам польскіх Сената і Сейма ў справе суверэннасці Украіны. Пераважная большасць дакладаў датычыла навуковай апрацоўкі жыцця польскай нацыянальнай меншасці ў Літве, Беларусі і Украіне.

Доктар **Багдан Скарадзінскі**, аўтар кніжкі „Беларусы, літоўцы, украінцы", сцвердзіў, што веды сярэдняга грамадзяніна Польшчы аб беларусах, літоўцах і украінцах раўняюцца нулю. Дагэтуль палітыка ў адносінах да нацыянальных меншасцяў была рэалізавана паслядоўна, кіравана палітычнымі метадамі. Створаны былі толькі магчымасці культуры — хопіць, калі хоць дзейнічае які калектыў песні ці танца! „Масква" кіравала гэтымі справамі. На шчасце, не існуюць ужо тыя залежнасці, але і цяпер кіраўнічыя сілы, якія ўплываюць на грамадскую думку, не маюць часу і энергіі займацца такімі „малаважнымі" справамі. Калі разважаць з імі тэарэтычна на гэту тэму, яны адразу прызнаюць рацыю, бачаць вагу праблемы, што „і трэба, і належыца" і г.д., але гэтага замала. Скарадзінскі мае надзею, што як развіццё падзей у заходніх рэспубліках СССР, так і ў нацыянальных групах у Польшчы прымусіць урад да акрэслення




ўсходняй палітыкі. Галоўны шанц бачыць, аднак, у пераменне пастаў польскага народа, бо „улады мяняюцца, народ застаецца". А на такія змены трэба пакаленняў. Заўважыў, што ў апошні час наступіў пералом у паставах — не было агрэсіўных і нетактычных выступленняў у адносінах да нацыянальных меншасцяў. Праўда, доктар Скарадзінскі не чытаў тады яшчэ істэрычнай пісаніны пасля таго, як Беларусь захацела гаварыць з апосталамі польскай дыпламатыі як суверэнная краіна... На пытанне, што маюць зрабіць беларусы і іншыя нацыі, каб паўстрымаць працэс паланізацыі, Скарадзінскі сказаў, што адзіны ратунак — выпрабаваць вялікую сілу прыцягальнасці сваёй культуры. Беластоцкія беларусы не маюць іншага спосабу пазбавіцца комплексаў, як пераканаць сваіх людзей, што іх культура і мова такія ж добрыя, як і польскія, а ў пэўных фактарах — нават лепшыя! Пераменаў такіх, аднак, не ўвядзе ніякі дзяржаўны дэкрэт — можа ім толькі спрыяць. Беларускі памешчык у другім ці трэцім пакаленні станавіўся палякам, заставаўся толькі „тутэйшы" мужык, гэта асацыявала з горшым веравызнаннем, мовай, культурай, матэрыяльным узроўнем... І так стварыўся закляты круг, які дзесьці трэба перарваць. А гэта справа перш за ўсё саміх беларусаў. „Самі мусіце здабыцца на сваю веліччыню!"

Дацэнт **Ежы Дамрош** ва ўступным слове сказаў: „Больш нас яднае, чым дзеліць!" Імкнучыся да поўнай незалежнасці і свабоды сваёй дзяржавы, палякі павінны ўсё большую ўвагу звяртаць на сваіх найбліжэйшых суседзяў — літоўцаў, беларусаў, украінцаў, а таксама латышоў і эстонцаў. Належым да вялікай супольнасці народаў, якія жывуць між Германіяй і Расіяй, значыць — спалучаных супольнымі інтарэсамі, якія вынікаюць з геапалітычнага становішча, геаграфічна-гаспадарчых умоў і палітычнай сітуацыі. Яднаюць нас таксама супольныя каштоўнасці — хрысціянская

лася на фільмах паводле Караткевіча. Прыходзілі амаль адны нашы інтэлектуалісты. Але ж былі дні, калі дзяўчаткі з БГКТ нават вагаліся, пускаць фільм ці не, і нават браць грошы за білеты з тых некалькіх асоб, што прыйшлі, не мелі сумлення.

У святле гэтых фактаў нехта мог бы паставіць натуральнае пытанне: дык ці наогул агляды беларускага фільма нам патрэбны? Думаю, можна смела адказаць яму, што патрэбны, ды нават вельмі. Была гэта першая спроба арганізаваць такі агляд у ГП БГКТ. Больш пяці гадоў фільмы ў клубе наогул не дэманстраваліся. І таму ў першыя дні кадры вылазілі за экран, часамі былі як бы за імглой, а то і зусім на момант знікалі або прападаў гук. Рэжысёры нерваваліся, уставалі, бегалі да кінамеханікаў. Аднак жа, к канцу ўсё наладзілася! І хто хацеў, мог на свае вочы ўбачыць, якое яно, **сённяшняе беларускае кіно.**

**АДА ЧАЧУГА**



*На здымках: кадры з фільма „Маці ўрагану".*

## Віншуем „Аўшру"!

Апошняя нядзеля лістапада праходзіла ў Пунску пад знакам святкавання 30-годдзя „Аўшры" — часопіса літоўскай грамадскасці ў Польшчы. З гэтай нагоды ў мясцовым касцёле адбылася багаслужба, а затым рэдакцыйны калектыў сустрэўся з дзеячамі літоўскіх арганізацый і чытачамі ў гімнастычнай зале пунскай школы. Сярод гасцей „Аўшры" былі прадстаўнікі Міністэрства культуры і мастацтва, рэдакцый „Нашага Слова" і „Нівы". Многа гасцей прыехала з Літвы: з Таварыства „Айчына", Міністэрства культуры і адукацыі, Віленскага тэлебачання.

Гісторыя „Аўшры" пачалася ў 1960 годзе. Першым яе рэдактарам быў Зыгмунт Стабэрскі і пад яго кіраўніцтвам на працягу шасці гадоў выйшла дзесяць нумароў. Тут трэба нагадаць, што пачаткова „Аўшра" выходзіла як аднадзёнка (так з'явілася дванццаць нумароў), а потым ператварылася ў квартальнік. У гадах 1966-1972 рэдакцыю ўзначаліў Ян Карчэўскі, а з 1972 г. на працягу амаль дванаццаці гадоў рэдагаваў яе Яўген Петрушкевіч. З 1984 г. рэдакцыяй кіруюць жанчыны: да 1989 г. — Вальдэмара Маліноўская, а зараз Аліцыя Сітарская. Мінулы год быў даволі цяжкі для часопіса: з друку выйшлі толькі два нумары квартальніка. Пачынаючы з гэтага года „Аўшра" выдаецца Літоўскім грамадска-культурным таварыствам, а рэдакцыя была пераведзена з Сейнаў у Пунск, дзе атрымала памяшканне ў новым будынку Гміннай управы. Зараз „Аўшра" выходзіць як штомесячнік і да лістапада было надрукавана дзевяць нумароў.

Рэдакцыя і Літоўскае таварыства атрымоўваюць моцную падтрымку ад сваіх суайчыннікаў з Літвы і іншых краін свету. Пры іх помачы і пры датацыі Міністэрства культуры і мастацтва паўстае свая паліграфічная база. У гэтым годзе былі закуплены дзве камп'ютэрныя друкаркі, што дазваляе рабіць набор газеты беспасрэдна ў рэдакцыі. Друкуецца „Аўшра" ў Сувалках, а некаторыя нумары друкаваліся ў Алітусе на Літве. У будучым прадбачваецца свая друкарня і тады можна будзе пашырыць выдавецкую дзейнасць.

Таксама ў памяшканнях Гміннай управы, побач з рэдакцыяй, ствараецца Літоўскі музей, які дакументуе гісторыю мясцовых літоўцаў — спрадвечных жыхароў гэтай зямлі. У адной з залаў знаходзіцца экспазіцыя выданняў нацыянальных меншасцяў у Польшчы: беларускіх, украінскіх, яўрэйскіх, татарскіх, чэшскіх.

На юбілейным вечары было многа ўспамінаў, уручаліся ўзнагароды карэспандэнтам і кальпарцёрам. Прыйшлі віншавальныя тэлеграмы ад чытачоў з усяго свету. Завяршэннем урачыстасці быў канцэрт самадзейных калектываў песні і танца. Выступалі ансамблі: „Ётва", „Судува", „Клумпе".

„Ніва" сардэчна віншуе „Аўшру" з юбілеем і жадае братняму часопісу многае лета.

**В. Луба**

# ВЯНОК

**ПЕНСІЯНЕРКА.** 60 гадоў. Шчырая, скромная, бяздзетная, матэрыяльна незалежная. Адукацыя сярэдняя. Пазнаёміцца з апякунчым, сумленным, працавітым беларусам.

**УДАВА.** 55 гадоў. Вышэйшая адукацыя. Скромная, чулая, незалежная. Працуе ў Беластоку. Пазнаёміцца з сумленным, інтэлігентным беларусам.

**НІНА АМЕЛЬЯНЮК**

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.**

**13. Дзеепрыслоўе[1]**

Дзеепрыслоўе — нязменная форма дзеяслова, якая абазначае дадатковае дзеянне і паясняе асноўнае, выражанае дзеясловам-выказнікам.

Дзеепрыслоўям уласцівы прыметы дзеяслова і прыслоўя.

Дзеепрыслоўі ўтвараюцца ад дзеясловаў. Маюць агульную з імі аснову і лексічнае значэнне: *хадзіць — ходзячы, расказаць — расказаўшы.*

Як і дзеяслову, дзеепрыслоўю характэрныя наступныя граматычныя катэгорыі:

— трывання (закончанага і незакончанага): *скасіць — скасіўшы, касіць — косячы;* могуць мець зваротную форму: *спаткацца — спаткаўшыся, спатыкацца — спатыкаючыся,*

— стану (незалежнага): *вяртаючы (кнігу), вяртаючыся (з вёскі).*

і сінтаксічныя асаблівасці:

— захоўваюць кіраванне таго дзеяслова, ад якога ўтвораны: *прачытаць кнігу — прачытаўшы кнігу, расказваць апавяданне — расказваючы апавяданне,*

— да іх, як і да дзеясловаў, могуць прымыкаць прыслоўі: *гаварыць выразна — гаворачы выразна, засеяць рэдка — засеяўшы рэдка.*

Як і прыслоўі, дзеепрыслоўі з'яўляюцца нязменнымі. У сказе найчасцей выконваюць ролю акалічнасцей: *Размаўляючы, жартуючы, настаўнікі, у тым ліку і дырэктар, мімаволі пазіралі на Шаблюка: як рэагуе ён, стары і мудры чалавек* (Шам.).

Дзеепрыслоўе разам з паясняльнымі словамі ўтварае *дзеепрыслоўнае словазлучэнне*, якое выступае як адзін член сказа: *За шалашом, схаваўшыся ад пранізлівага ветру, сядзіць на пні чалавек.* (І. Р.), дзе: *схаваўшыся ад пранізлівага ветру* — акалічнасць спосабу дзеяння.

У сказе дзеепрыслоўе абазначае дзеянне той самай асобы ці прадмета, што і дзеяслоў-выказнік: *Ваверкі спрытна зрываюць сухія шышкі ды, спяшаючыся, нясуць у свае гнёзды.* (Як.). Парушэнне гэтага правіла з'яўляецца парушэннем літаратурнай нормы, напр.: *Падымаючыся на гару ў турыстаў парваліся вяроўкі.*

**УТВАРЭННЕ ДЗЕЕПРЫСЛОЎЯЎ.**

| Дзеепрыслоўе | |
|---|---|
| **незаконччанага трывання** | **закончанага трывання** |
| аснова цяперашняга часу дзеяслова незакончанага трывання + суфіксы:<br>*-учы (-ючы)* для дзеясловаў I спражэння: *ідучы, кіруючы;*<br>*-ачы (-ячы)* для дзеясловаў II спражэння: *гаворачы, ходзячы.* | аснова інфінітыва (або прошлага часу дзеяслова закончанага трывання) + суфіксы:<br>*-ўшы* (пасля галосных): *прачытаўшы, сказаўшы,*<br>*-шы* (пасля зычных): *прынёсшы, выбегшы.* |

Дзеепрыслоўі незакончанага трывання абазначаюць дзеянне, якое адбываецца адначасова з асноўным дзеяннем, выражаным дзеясловам-выказнікам: *На паасобных, напалову агаленых ад лісця яблынях, утрымліваючыся пад вятрамі, сям-там яшчэ віселі антонаўкі і чырвонабокія цыганкі.* (І.Н.)

Дзеепрыслоўе закончанага трывання абазначае дзеянне, якое адбылося раней, чым галоўнае дзеянне, выражанае дзеясловам-выказнікам: *Купіўшы білет на цягнік і зайшоўшы ў свой вагон, я не здзівіўся, што ў вагоне амаль няма людзей. Хто ў такую замець куды едзе?* (Сач.).

„Месца дзеепрыслоўяў незакончанага і закончанага трывання ў сказе абумоўлена паслядоўнасцю асноўнага і дадатковых дзеянняў: *„Прыехаўшы з кірмашу дамоў, ён прывязаў каня да плота і, не заходзячы ў хату, пайшоў склікаць людзей.* (Б.)"[2]

[1] Літаратура: К. М. Панюціч, Дзеепрыслоўе, у: Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія пад рэд. Ф. М. Янкоўскага, Мінск 1980, с. 180—186; Беларуская мова пад рэд. А. М. Клачко, ч. 1, Мінск 1982, с. 276—281.

[2] К. М. Панюціч, ... с. 185—186.

культура і традыцыі еўрапейскага гуманізму, расл. яны і развіваліся на аснове народна-рэгіянальных і нацыянальных культур. З'яўляемся таксама этна-культурнай супольнасцю, якая сотні гадоў была ў межах аднаго дзяржаўнага арганізма (Кароны і Літвы), а потым пад ярмом аднаго захопніка.

— Такія з'явы і прынцыпы, як гегеманізм адной партыі, экспансіянізм адной дамінуючай дзяржавы, супрэмацыя адной культуры над іншымі — рассыпаюцца ў сённяшні час. Усё большае значэнне здабываюць такія каштоўнасці, як свядомасць нацыянальнай тоеснасці, неабходнасць поўнай дзяржаўнай незалежнасці і будовы дэмакратычных структур, а перш за ўсё — патрэба як найлепшых суадносін з суседзямі, — сказаў дацэнт Дамрош. — Дзеля стварэння галоўнай ідэі — блізка супрацоўнічаючай абшчыны паўнапраўных і раўнапраўных дзяржаў усходняй Еўропы — трэба пераламаць існуючыя яшчэ адмоўныя этнічныя стэрэатыпы аб сваіх суседзях, узаемную антыпатыю і прадузятасць, выяўляць узаемныя крыўды, якіх нямала. Трэба старацца ствараць усебаковыя магчымасці пагаднення з новай Германіяй і адраджаючайся Расіяй, ахопленай воляй глыбокіх перамен і пераглядам сваёй імперыяльнай палітыкі. На поўдзень ад нас паўднёва-ўсходняя Еўропа, якая дэмакратызуецца.

Народы ўсходняй Еўропы стаяць перад вялікім гістарычным шанцам. Найлягчэй зразумець супольныя інтарэсы пры гаспадарчай кааперацыі, найлепей зразумець супольныя каштоўнасці — у сферы культуры.

— Хочам супрацоўнічаць з прадстаўнікамі ўсіх нацыянальнасцяў, якія жывуць на абшары між Фінскім залівам і Крымам, Одрай ды Нысай і Донам. Імкнемся да таго, каб усе групы ўсходнееўрапейскіх народаў, якія пражываюць на тэрыторыі Рэчыпаспалітай Польскай, дабіліся поўнай аўтаноміі, а таксама хадайнічаем за тое, каб палякі за Бугам і Нёманам адчувалі сябе поўнапраўнымі грамадзянамі сваіх дзяржаў, — пішуць у бюлетэні **„Прыбліжэнні"** навукоўцы з „варшаўска-сядлецкай групы", нефармальнай групы, якая так зорка бачыць патрэбнасць супрацоўніцтва пяці нацый на ўсход ад Польшчы — гаспадарчага, палітычнага, навуковага, асветнага і культурна-грамадскага. Дзейнасць гэтай групы павінна пашырыцца і на іншыя навуковыя асяроддзі. Да нядаўна падобная міжнародная дзейнасць была абмежавана кантактамі на партыйна-ўрадавай ступені або інстытутаў, кантраляваных цэнтральнымі ўладамі. Цяпер розныя разумныя і карысныя грамадскія ініцыятывы павінны мець умовы свабоднага развіцця. Мэта — пазнаць і зразумець, каб паважаць і любіць.

**Міра Лукша**

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

### ЧОРТ

Жэня ў 26 гадоў засталася ўдавой. Чацвёра маленькіх дзетак давялося адной гадаваць.

Дзеці падраслі, вывучыліся і пасяліліся ў горадзе. Жэня засталася на гаспадарцы адна. Рабіла, як вол, пакуль не занядужала. Хварэла. Шмат часу ляжала ў бальніцы.

Сыны пажаніліся, а дачка ўсё была адзінокай. Не падабаліся ёй хлопцы, якіх ведала. Усё гаварыла, што яшчэ хоча пагуляць, каб мець што ўспамінаць на старасць.

Нявесткі раілі свякрусе кінуць гаспадарку і ісці ў горад. Жанчына ведала, што ў сваім доме ёй будзе найлепш, і нікуды не хацела ісці.

— Дурная ты, Жэня, дальбог, дурная, — гаварылі суседкі. — Для каго ты тут працуеш? Дзеці жывуць у горадзе. Ім добра, і грошы маюць, а ты што? Забіваешся! Аддай дзяржаве зямлю і ідзі на пенсію!

Жанчына паслухала суседак і стала пенсіянеркай.

— Добра мне цяпер, — гаварыла суседкам і нявесткам, — гародчык ёсць, бульбу пасадзіць можна. Курэй гадую, свае яйкі ёсць. Яшчэ і грошы ёсць. Цяпер лепш, чым тады, калі гаспадыняй была...

Дачка пачала дапытвацца, калі маці атрымоўвае грошы. Маці, нічога не падазраваючы, сказала.

Пасля абеду Жэня атрымала пенсію і, як заўсёды, паклала на дне сундука. Дзвярэй ніколі не замыкала, калі ішла спаць. Сядзела доўга, чытала кніжку. Раптам нешта завыла і ў хату ўбег чорт: на галаве рогі, рукі і ўсё цела парослае буйнымі валасамі, ногі з конскімі капытамі!. Жанчына анямела. Не паспела перажагнацца, як чорт крыкнуў:

— Давай, старая, грошы, а не то ў пекла павалаку!

— Я-я-а іх-х не-е маю!

— Маеш! Давай, бо інакш будзеш смажыцца ў смале!

Што ж было рабіць з нячыстай сілай? Жанчына паслухмяна аддала грошы.

У нядзелю прыехалі сыны ў госці. Жэня расказала аб сваёй бядзе.

— Не ведаем, — смяяліся сыны, — навошта чорту вашы грошы? Мо ў пекле ў покер іграе і прайграў!

Падумалі, што маці звар'яцела.

Чорт паяўляўся толькі тады, калі старая атрымоўвала пенсію.

— Слухайце, — сказала Люся, наймалодшая нявестка, — трэба, каб вы, мужчыны, пабачылі, што гэта творыцца. Мо фактычна, хтосьці пераапранаецца і забірае ў мамы грошы?

У той дзень, калі Жэня мела атрымаць грошы, сыны прыехалі яшчэ раніцай. Сядзелі дома, нікуды не выходзілі. Вечарам, як заўсёды, з'явіўся чорт. Мужчыны толькі гэтага і чакалі. Кінуліся ўтраіх і зняволілі чорта. Аказалася, што гэта маска, а пад ёй была іх сястра Марыся.

— Даруй, мама! — заплакала дзяўчына.

— О не! Не дарую. Няхай усе людзі ведаюць, якая ты дачка!

Браты білі сястру рамянямі. Забаранілі прыходзіць да маці. Сказалі, што ўсе яе выракаюцца.

А Жэня часта плакала і наракала:

— Божа мой, адна дачка і тая не такая, як трэба!

**Аўрора**




Дарагое „Сэрцайка"! Вырашыла і я выказаць табе свае жалі, хаця ведаю, гэта і так нічога не дасць. Бо, відаць, праўду людзі кажуць, што сілаю сэрцу мілы не будзеш. Аднак жа веру, што ты прынамсі паспагадаеш мне і, можа, правучыш прынамсі мужчын, як яны павінны сябе паводзіць. Некаторым з іх дык здаецца, што, калі ён зайшоў ужо высока, дык можа рабіць некаму на галаву.

Я — маладая разведзеная жанчына з дзіцём. У хаце пуста, дык знаходжу нейкае супакаенне ў грамадскай працы і вельмі ёй аддана.

У гэтай грамадскай працы я сутыкнулася з чалавекам, які кіраваў адной з вельмі важных галін грамадскага жыцця. Вядома, не буду табе тлумачыцца, хто ён такі, бо не хачу, каб меў з-за мяне нейкія прыкрасці. Але спадабаўся мне страшна. Быў нежанаты, а прыстойны які! Падабаўся, зрэшты, не толькі мне. Але на дзяўчат не глядзеў зусім. Пасля прафесійнай працы ўсе свае сілы і энергію аддаваў грамадскасці. На працягу пяці гадоў была я ў яго закаханая на смерць. Ішла на сходы, каб бачыць яго, на розныя сустрэчы і грамадскія пачыны — таксама. Усё рабіла, што ні загадаў.

І вось аднойчы позна вечарам мне пазванілі, што трэба перадаць адну вестку гэтаму чалавеку. Фактычна патрэбны былі нейкія дадзеныя да заўтрашняй акцыі. Нягледзячы на познюю вячэрнюю гадзіну (было ўжо каля поўначы), я апранулася і выйшла з хаты. Каб было хутчэй, я ўзяла таксі і паехала да майго аднадумца дахаты. Хаця я ў яго ніколі не была, то яго адрас быў мне добра вядомы. Бывалі ў яго іншыя.

Тое, што я перажыла, здаецца мне страшэнным кашмарам яшчэ сёння. Я пазваніла ў дзверы, але ён доўга не адчыняў. Нарэшце дзверы адчыніліся, і ён прадстаў перада мною заспаны, у піжаме. Нейкая грымаса нянавісці перакасіла яго твар, калі ён убачыў на парозе сваёй кватэры мяне. Не ўпускаючы мяне ў кватэру (мы так і сталі — ён у кватэры, а я на калідоры), ён крыкнуў амаль да мяне: „Чаго вы хочаце ад мяне? Што вам патрэбна ў гэтую пару?!" Я пачала яму нешта тлумачыць, што вось, маўляў, патрэбныя тыя дадзеныя, бо інакш планаваная акцыя заўтра не адбудзецца, і г.д. і т.п., але ён не захацеў нават мяне слухаць, а толькі сказаў, што такія справы афармляюць удзень, і захлопнуў дзверы перад маім носам.

Са слязьмі ў вачах я сышла ўніз са сходаў. Божа, які нявыхаваны чалавек, падумалася мне. Як такі чалавек можа рабіць такую вялікую справу?! Ды й наогул, як можна гаварыць такім чынам з жанчынай? Усё ж такі ён жа мужчына...

**Лена**

Лена! Па-першае, не мані. Уначы не мусіла ты зрывацца. Магла ж бы і паехаць раніцай, праўда? А чаму не пазваніла? Ці ў яго тэлефон быў сапсаваны? Прызнайся, мела ты ціхую надзею, што мужчына, калі ўбачыць цябе ў начную пару, то адразу расклеіцца?.. А ён — не! Ён перш за ўсё не мужчына, а грамадскі дзеяч! А, зрэшты, думаю лагічна, сказаўшы, што ўсё можна будзе аформіць заўтра раніцай. Бадай, ён лепш ведаў.

Пяць гадоў ты хадзіла вакол яго, закаханая. Быў бы ён сляпы, калі б не заўважыў гэтага. Відаць, што проста ты не была ў яго тыпе, а твой прыход да яго ў сярэдзіне ночы, калі ты вырвала яго са сну, яшчэ больш знеахвоціў яго ў адносінах да цябе.

Думаю, што была гэта твая апошняя спроба, апошні падыход да гэтага чалавека. Цяпер ужо ты пакінеш яго ў спакоі.

А наогул варта, каб жанчына ведала, калі і каму яе прыход будзе жаданы...

**Сэрцайка**




### МАКАРОННАЯ ЗАПЯКАНКА ПА-ФРАНЦУЗСКУ

На 25 дэкаў макарону трэба ўзяць паўтары шклянкі смятаны, 4 морквіны, 1 сэлер, 2 цыбуліны, 20 дэкаў пячурыц, 4 лыжкі алею, 1 шклянку сухога чырвонага віна, соль, перац, вострую папрыку ў парашку.

Макарон укінуць у кіпячую пасоленую ваду. Зварыць. Адцадзіць, калі будзе яшчэ цвердаватым, перапаласкаць яго, паліваючы ў друшляку цёплай вадой. Гародніну памыць, ababраць, спаласнуць і нарэзаць макаронікам, дадаць нарэзаную пер'ямі цыбулю і алей, пасаліць і тушыць на невялікім агні мінут 15, памешваючы. Тады дадаць ачышчаныя, памытыя і дробна нашаткаваныя пячурыцы. Даліць віна і тушыць. У канцы тушэння дадаць папрыкі, солі і перцу. Макарон палажыць у каструльку, заліць смятанай, накрыць і тушыць на невялікім агні, а праз некалькі мінут дадаць гародніну з пячурыцамі, добра перамяшаць і, калі трэба, дадаць крыху прыпраў. Усё пералажыць у змазаны тлушчам посуд і ўставіць у гарачую духоўку. Падаваць страву адразу, як толькі запячэцца. Асобна падаць да макарону востры жоўты сыр, сцерты на тарцы.

### МАКАРОН ПАД БЕШАМЕЛЕВЫМ СОУСАМ

На 25 дэкаў макарону (спагеці) трэба ўзяць паўтары-дзве шклянкі бешамелевага соусу, крыху сцертага мускатнага арэха, 15 дэкаў сцертага жоўтага сыру (вострага), 1 лыжку сцертай булкі, 5 дэкаў масла, соль і перац, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.

Макарон зварыць у вялікай колькасці пасоленай вады, адцадзіць, перамяшаць з 10 дэкамі сцертага сыру і з бешамелевым соусам, дадаць солі, перцу, мускатнага арэха. Падрыхтаваны макарон пералажыць у змазаны маслам вогнетрывалы посуд, выраўнаць яго зверху і пасыпаць рэшткай сыру, змешанага з цертай булкай. Паліць растопленым маслам. Запячы ў духоўцы. Пасыпаць пятрушкай.

**Гаспадыня**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Прысніўся мне дзіўны сон. Быццам бы я знаходжуся ў будынку майго прадпрыемства і тут мне даюць папрыку. Папрыка вельмі прыгожая, круглая і светлая, проста сонечнага колеру. Ужо насыпалі больш як паўмяшка і ўсё яшчэ сыплюць.

Што можа абазначаць гэты сон?

**Марыся**

Дарагі Астроне! Снілася мне, што мы з дачкой былі на вёсцы. Там жыве наш дзядзька. Я круцілася на панадворку, а дачка мая пачала прыбіраць хату дзядзькі. Па нейкім часе я ўвайшла ў хату і з прыемнасцю паглядзела на прыбраную кухню і пакойчык. Асталося толькі змяніць пасцель. І тут... такая нечаканасць. Пасцель была моцна забруджаная, а прасціна не толькі забруджаная, але і моцна парваная. А да таго ж у пасцелі я ўгледзела нечысці (адкуль яны там і знайшліся?).

**Геня**

Марыся! Што датычыць твайго сну, дык здаецца мне, што будзеш мець нейкі прыбытак (можа прыбудзе грошай на рабоце?..). Калі ўзяць пад увагу, што папрыка мае гаркаваты арамат, дык можна меркаваць, што і той прыбытак не абыдзецца без горычы.

А твой сон, Геня, зусім кепскі. Абазначае ён, што можаш спадзявацца ў тваёй сям'і нейкай смерці. Магчыма, што будзе гэта звязана з тваім дзядзькам, бо менавіта яго хату прыбірала твая дачка. Смерць гэта наступіць, бадай, пасля цяжкой хваробы, бо прыснілася табе і пасцель. А да ўсяго гэтага дык і пасля смерці выніркнуць нейкія непрыемнасці, нейкія бруды. Але што ж, пасля смерці нашых блізкіх амаль заўсёды вынікаюць нейкія непаразуменні. Гэтым не пераймайся!

**Астрон**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




Група малодшых дзяцей з Ласінкі з настаўніцай Нінай Абрамюк. Фота Я. Чэрнякевіч.

В. Марозаў

## Дзед Сямён, грыб і я

Я ішоў па лясной сцяжынцы. Раптам бачу — проста перада мною ляжыць шапка. Старая салдацкая шапка-вушанка. Але гэта ж дзеда Сямёна! Як яна трапіла сюды? Падыходжу бліжэй. А вось і сам дзед Сямён. Сядзіць у баку на сухой купіне і на мяне хітра паглядвае.

— Ну, як, назбіраў грыбоў? — Я паказаў кошык. — Э-э, нягуста. Не там шукаеш! Вось глянь! — І дзед прыўзняў бярозавыя галінкі са свайго кошыка.

— Ну-у, — працягнуў я з зайздрасцю. У кошыку адзін пры адным, з акуратненька абструганымі тоўстымі ножкамі ляжалі баравікі. — Дзе ж такія растуць?

— А вунь! Пад маёй шапкай! — І дзед зморшчыўся ва ўсмешцы. — Што? Не верыш? А ты паглядзі. Хоць не, пачакай... — Ён рукой стрымаў мяне. Выняў свой гадзіннік-цыбуліну. — Ранавата яшчэ, няхай падрасце.

Цяпер заўсміхаўся і я. Для дзеда Сямёна мы ўсе як бы не дараслелі, а заставаліся такімі ж хлапчукамі, якія некалі, разявіўшы раты, слухалі яго байкі.

— Ногі цяпер ужо не тыя, каб па лесе бегаць, — скардзіўся тым часам дзед Сямён. — Вось я і дадумаўся: дзе, значыцца, зямелька выпучылася — кладу сваю шапку. Для абагрэву. ...Ён і прэцца, як на дрожджах. Зноў жа ў цемры. Яны ж па-начах растуць! — Дзед зноў выцягнуў гадзіннік. — Цяпер якраз, бо перастарак можа выйсці. У мяне, бачыш, усе аднаго ўзросту. — І ён яшчэ раз паказаў свой кошык.

Мы падышлі да шапкі. Дзед, крэкчучы, нахіліўся і пачаў памаленьку паднімаць яе. Ну, вядома, пад шапкай быў грыб. Такі ж тоўсценькі, як у кошыку, з круглай цёмна-чырвонай шапкай. Спераду, паказваючы бель споду, капялюшык загнуты.

Дзед адышоў, запрашаючы мяне палюбавацца грыбом зблізку.

— Цудоўны, нічога не скажаш. — І весела дадаў: — У мяне ўжо поўна. Так што гэты — твой. — Насунуў шапку, падхапіў кошык, падміргнуў, задаволены, і знік у кустах.

Я выцягнуў нож. Але тут пачуў дзіцячыя галасы. І нечакана для сябе самога сцягнуў з галавы шапку, агледзеўся і накрыў грыб.

І сеў на купіну.

Аляксандр Паскробышаў

## АНДРЭЙКА І РЫЖЫК

Не паспела бабуля вярнуцца з малаком, як насустрач Андрэйка і Рыжык. Пачаставала бабуля ўнука, наліла і кату. Кот выхлебтаў сваё малако і круціцца ля Андрэйкі. Хлопчык хоча падзяліцца з Рыжыкам, але баіцца, што бабуля сварыцца будзе.

— Пачакай, Рыжык, — шэпча Андрэйка, а сам сочыць за бабуляй. І Рыжык сочыць.

Бабуля неўзабаве выйшла падмятаць калідор. У тую ж хвіліну Рыжык скокнуў хлопчыку на плячо і завуркатаў у самае вуха. Паспрабаваў Андрэйка скінуць ката, але той яшчэ мацней учапіўся вострымі кіпцюрамі ў куртачку. Тады Андрэйка тузануў Рыжыка за хвост. Кот падскочыў і ўпаў на стол. Кубак з малаком абярнуўся.

Андрэйка спалохаўся, заплюшчыў вочы, а Рыжык стаіць пасярод стала і аблізвае мокры хвост.

Бабуля вярнулася ў пакой, спынілася ля дзвярэй і надзела на нос акуляры.

— Што гэта ты, Андрэйка, нарабіў? — спытала бабуля.

Андрэйка маўчаў і не ведаў, што адказаць. Потым сабраўся з духам і кажа:

— Гэта не я. Гэта Рыжык нарабіў.

Бабуля злавчылася і злавіла Рыжыка пад сталом. Даўно ўжо збіралася яна пакараць ката за тое, што залез лапай у збан са смятанай. А цяпер яшчэ і малако разліў...

— Ах ты, нягоднік!.. — сярдзіта бурчала бабуля.

Дарэмна спрабаваў Рыжык вырвацца: бабуля моцна трымала яго за хіб. Кот жаласліва замяўкаў.

Шкада стала хлопчыку ката, і ён папрасіў:

— Бабуля, адпусці Рыжыка. Ён не вінаваты. Гэта я разліў малако...

— Ты? А чаму Рыжык на стале быў?

— Гэта... Гэта ён ускочыў, каб памагчы мне дапіць малако.

— Дык, кажаш, ты сам? — перапытала, усміхаючыся, бабуля і адпусціла Рыжыка.

Калі бабуля выйшла з пакоя, Андрэйка ўзяў ката на рукі.

— Ты не думай, — ціха сказаў Рыжыку Андрэйка, — бабуля ў нас зусім не злосная. Яна добрая...

## Для самых маленькіх

Яўген Крупенька

### ЦЕСТУ ЦЕСНА

Замясіла мама цеста
І паставіла стаяць.
Толькі цесту
Стала цесна,
Цеста стала
Уцякаць.
Калі мы паснулі,
Вылезла з каструлі,
Лёгка уздыхнула
І сказала:
— Ох!
Нібы па дарозе,
Пайшло па падлозе,
Пайшло па падлозе,
Хоць не мае ног.

Мы прачнуліся
Уранку,
А на кухні наша мамка
Рукамі разводзіць:
І бліны, і абаранкі
Па падлозе ходзяць!

### ЯБЛЫК

На галінцы тоненькай
Яблык спелы-спелы,
Слухаць песню
сонейка
На яблык прысела.

### СХОВАНКІ

— Палачка-шукалачка
Адшукай дзяцей,
Дзе яны схаваліся,
Пакажы хутчэй.
Палачка-шукалачка,
Не выдае сакрэт,
Хоць ведае: Андрэйка
Сядзіць і есць агрэст.

За бочкаю Сяргейка
Хавае галаву.
З Наташай ціха Светка
Залеглі у траву.

Сымонка паміж градак
Не дыхае, ляжыць.
А палачка-шукалачка
Хоць бачыць, ды маўчыць.

Ігнат паклікаў:
— Бобік,
Хадзем дзяцей шукаць.
Узрадаваны Бобік
Пачаў хвастом віляць.

Вы верыце, не верыце,
Што Бобік наш без слоў
Дапамог Ігнатку
Адшукаць сяброў.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

— ✱ —

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Келдыша, 3а, кв. 5. Сендинаевой Эльмире (7 клас).

— ✱ —

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Келдыша, 3а, кв. 14. Проскудиной Наташе (9 клас).

— ✱ —

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Келдыша, 3а, кв. 10. Железникову Сергею (5 клас).

## Малюнкі школьнікаў



Ілюстрацыя да казкі „Ліса і Журавель". Маляваў Мар'юш Барысюк, вуч. II класа з Храбалоў.



## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРАЧКА"!

Пішуць да Цябе вучаніцы Падставовай школы ў Храбалах. Мы хочам з Табой падзяліцца ўражаннямі з пабыўкі ў час летніх канікул на Беларусі. Сёлета мы былі ўпершыню ў Савецкім Саюзе, у беларускім горадзе Гродна. Цэлыя тры тыдні правялі мы ў лагеры „Лясная казка". Мы — гэта Еля Ваўранюк, Крыся і Еля Семянюк — лаўрэаты беларускіх конкурсаў. Нас усіх, беларускіх дзяцей з Польшчы, было 70. Кіраўніком нашым быў Янка Мордань. Час, праведзены там, быў вельмі цікавы. Мы плавалі на параходзе па Нёмане, сустракаліся з беларускай паэтэсай Данутай Бічэль-Загнетавай, пабывалі на радзіме і ў музеі Алаізы Пашкевіч-Цёткі.

Тры тыдні прайшлі вельмі хутка. Не хацелася вяртацца дадому. На заканчэнне да нас прыехала гродзенскае тэлебачанне. Усім нам падарылі па дзве беларускія кніжкі. Цяпер мы часта вяртаемся думкамі да пабыўкі на Гродзеншчыне. Каб такія канікулы былі штогод!

Да пабачэння, „Зорачка"! Жадаем Табе ўсяго добрага.

**Еля і Крыся Семянюк**
**і Еля Ваўранюк, Храбалы**

## Вучнёўская творчасць

### КУРЫЦА-РАЗУМНІЦА

**Прыгажуня — курыца**
**У мяне была.**
**Ой, якая спрытная**
**Ды была ж яна:**
**Шыла мне кашулі,**
**Боты да нагі,**
**Салодкія, румяныя**
**Пекла пірагі.**
**А калі ўжо ўправіцца,**
**Сядзе ля варот,**
**Казку як расказжа,**
**Дык разявіш рот.**

**Юрка Грыгарук**
**в. Рыгораўцы, пошта Грэдалі**

## Паглыбляй свае веды

### СТАРОНКІ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

### МЯДОВЫ БУНТ (4)

**Пачатак у папярэдніх нумарах**

Усе пытанні барацьбы сяляне абмяркоўвалі, як гэта вынікае з судовай справы, грамадою, на агульных сходах, і не дапускалі ніякага самаўпраўства.

Сяляне, што даволі рэдкі выпадак у гісторыі феадальнай барацьбы, трымаліся больш як два дзесяцігоддзі. У лістападзе 1720 года ў Слонім прыбыла судовая камісія рэферэндарскага суда. Прадстаўнік Сапегаў паставіў у віну сялянам тое, што яны палі не засеялі, хлеб не сабралі. А што і сабралі, дык нанятым людам і не ў пару. Мядоў палавічных не аддавалі... а хто быў паслухмяны двару, таго самі каралі... Сведкі абвінавачання паказалі, што сяляне пагражаюць спаліць двор, адкрыта гаворачы: „Тут ніякага двара не было, а толькі баярын жыў і наша рука ўсё чыста будавала, мы яго і спалім".

Прадстаўнік сялян лагічна і на здзіўленне аргументавана выказаў прэтэнзіі грамады.

Суд адразу ж трапіў у тупік. Сімпатыі яго былі цалкам на баку Сапегаў. Але ў той жа час нельга было адмахнуцца ад важкіх, пераканаўчых довадаў сялян. Задаволіць іх патрабаванні, значыць, прызнаць бунт законным і тым стварыць у краі непажаданы прэцэдэнт. Адмовіць і пайсці насуперак відавочным фактам таксама не з рукі: можна падліць масла ў агонь...

Так і не дайшоўшы ні да якой высновы, суд не знайшоў нічога лепшага, як адкласці справу да гадавога кірмашу наступнага года, і вярнуўся ў Вільню.

На наступнай сесіі сяляне зноў даводзілі, што яны не бунтуюць, а дамагаюцца выканання адміністрацыяй староства скарбовых грамат. Мядовую даніну яны таксама не адмаўляюцца плаціць, але „па старыне", як плацілі спрадвеку, і ў доказ „паклалі на стол грамату Давойны... дзе сказана, што падданыя павінны даваць ад лазьбеня (мера мёду) па 25 грошай", а не палову ад усяго сабранага мёду.

На гэты раз суд „лепш увайшоў у справу" і, як трэба было чакаць, вынес дэкрэт у карысць Сапегі. Суддзі спасылаліся на дэкрэты і граматы Жытімонта-Аўгуста (Зыгмунта Аўгуста), С. Баторыя, якія абаранялі інтарэсы магнатаў, а выдадзеныя на карысць сялян граматы Яна III і Аўгуста II адкінулі як незаконныя.

Па рашэнню суда „працавітыя падданыя" былі абавязаны выконваць усе павіннасці па інвентарах адміністрацыі.

Няўдача хоць і вымусіла сялян часова скарыцца, але не зламала іхняй волі. Яны яшчэ не адзін раз выступалі супроць прыгнятальнікаў, абараняючы свае правы людзьмі звацца.

**(З кнігі Станіслава Цярохіна „Мядовы бунт")**

**Уладзімір Мацвеенка**

# Загадкі Зайкі-загадайкі

**16**

**Ён па лесе скок ды скок,**
**Косіць вокам з боку ў бок.**
**У дупле вавёрка — шчоўк!**
**А яму здаецца — воўк!**

**17**

**Як страла лятаю,**
**Мошак паядаю.**

**18**

**Ён у лузе, ён на полі,**
**Зранку лётае на волі.**
**Звонка песні распявае,**
**Імі дзетак ён вітае.**

**19**

**Наведваю, дзеткі,**
**Я розныя кветкі.**
**Збіраю нектар.**
**Найлепшыя лекі**
**Прыроднай аптэкі —**
**Салодкі мой дар.**

**20**

**На тоненькай ножцы**
**Стаіць.**
**Сонейкам на неба**
**Глядзіць.**

**Адказы знойдзеш у наступным нумары.**

**Адказы на загадкі з папярэдняга нумара:** 11. Бяроза. 12. Гусак. 13. Хмара. 14. Парасон. 15. Мурашнік.

## Легенды нашай зямлі

### ЗАБЛУДАЎ

Расказваюць старыя людзі, што на тым месцы, дзе цяпер Заблудаў, былі калісьці вялікія лясы.

У тыя дрымучыя лясы паехаў сабе раз на паляванне якісьці магнат ці князь і заблудзіўся. Блудзіў ён, блудзіў і ніяк не мог нікуды выехаць. Нарэшце, змучыўся, захацеў есці, сеў на дубовы пень і пачаў абедаць.

На тым месцы якраз і заснаваны цяперашні Заблудаў... Дзесь, бадай, і ў летапісе сказана, што Заблудаў стаіць над рэчкаю Мелетына, пабудаваны на дубовым пні.

### ЯК ЗРАБІЛАСЯ БАЛОТА КАЛЯ КЛЕНІКАЎ

Здарылася гэта тады, калі яшчэ ў Кленіках жыў пан, за панскім прыгонам. Была ў гэтага пана дачка-прыгажуня, слаўная з прыгажосці на ўсю ваколіцу.

Каля панскае сялібы бегла невялічкая рэчка. Дачка-прыгажуня вельмі любіла сядзець на беразе гэтай рэчкі. Вада ў ёй была чыстая, як люстэрка. Прыгажуня часта ўглядалася на сваё адлюстраванне ў вадзе і захаплялася сабою.

Але вось аднойчы дачка-прыгажуня загінула. На другі дзень сяляне выцягнулі яе цела з рэчкі.

У панскай сям'і вялікае няшчасце. Маці прыгажуні не магла даравацъ гэтай рэчцы, яна ў злосці закляла яе. Кінула ў ваду авечае руна, кажучы:

— Згінь, рэчка! Не будзе цябе столькі гадоў, колькі ёсць валасоў воўны на авечым руне.

Так і сталася. Рэчка прапала. На яе месцы паявілася дрыгва і балота, парослае лазой...

**(З кнігі А. Гурскага „Бяздоннае багацце")**

## Вясёлы куточак

* * *

Настаўніца: — Чаму малекулы пры награванні хутчэй парушаюцца?

Вучань: — Гэта вельмі проста, бо ім робіцца горача.

* * *

Бацька спытаў у Ніны:

— А рыбкам ты ваду змяніла?

— Яны ж яшчэ і той не выпілі.

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



Знайдзі двух аднолькавых зайчыкаў.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

